


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*


# наша слова

№ 31(41) • 18—24 ВЕРАСНЯ 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)


## Поступ тыдня

УПРАВА СОЙМА БНФ «АДРАДЖЭННЕ» ЗАКЛІКАЛА ЎСІХ ГРАМАДЗЯН ВЫЙСЦІ 17 ВЕРАСНЯ НА ПЛОШЧУ, ДА ДОМА ЎРАДА, КАБ ВЫКАЗАЦЬ ПАТРАБАВАННІ ДА НЕЧАРГОВАЙ СЕСІІ БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА: поўнай нацыяналізацыі маёмасці КПСС, адстаўкі пракурора БССР, міністра юстыцыі, старшыні Дзяржтэлерадыё, міністра замежных спраў за тое, што заплямілі сябе ў час путчу, стварэння ўласных узброеных сіл і міністэрства абароны, прыняцця законаў аб грамадзянстве, аб абароне межаў і г. д. У цяперашняга, пераважна наменклатурнага Вярхоўнага Савета, лічыць управа Сойма, перспектывы няма. Каб не правакаваць народ, не ўзбуджаць у грамадзян нянавісць, ён павінен прыняць новы дэмакратычны Закон аб выбарах і прызначыць выбары сёлета.

*БЕЛАРУСКІ ЎРАД даручыў адпаведным міністэрствам і ведамствам падрыхтаваць прапановы аб увядзенні ўласнай грашовай адзінкі, зацверджанні дзяржаўнай граніцы, размяшчэнні войск і ўзбраенняў (дарэчы, пакуль што ніхто з кіраўнікоў рэспублікі не ведае, ці ёсць на нашай тэрыторыі стратэгічнае ядзернае ўзбраенне) — усіх пытанняў, што звязаны з забеспячэннем самастойнасці Беларусі.*

СЕНАТ І СЕЙМ Рэспублікі Польшчы падтрымалі абвяшчэнне незалежнасці Беларусі і выказалі ўпэўненасць у тым, што паміж дзвюма дзяржавамі будуць развівацца традыцыйна добрасуседскія адносіны.

СТАРШЫНЯ ДЗЯРЖКАМДРУКУ БССР А. БУТЭВІЧ У СУВЯЗІ З ПЕРАРЭГІСТРАЦЫЯЙ СРОДКАЎ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ, ЗАСНАВАНЫХ З УДЗЕЛАМ КАМІТЭТАЎ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ, ЗАКЛІКАЎ КІРАЎНІКОЎ РЭДАКЦЫЙ І ОРГАНАЎ УЛАДЫ НА МЕСЦАХ АДДАЦЬ ПЕРАВАГУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ. ЦЯПЕР НА РОДНАЙ МОВЕ ВЫПУСКАЕЦЦА 122 ПЕРЫЯДЫЧНЫЯ ВЫДАННІ З 466, ШТО ВЫХОДЗЯЦЬ У РЭСПУБЛІЦЫ.

ПРЭЗІДЫУМ АКАДЭМІІ НАВУК рэспублікі пастанавіў стварыць Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны. Цэнтр будзе займацца гісторыяй і тэорыяй нацыянальнай культуры, яе пашырэннем у сучасным свеце, беларусазнаўствам (уключаючы края- і скарыназнаўства, археаграфію), культурна-асветнай дзейнасцю.

*Учора адкрылася нечарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР. Галоўнае пытанне: ці будзе сапраўды незалежнай рэспубліка Беларусь.*

*Вярнуць гарадку стары назоў...*

Стар. 2.

ле!

## Хопіць карміць ашуканцаў

***Ужо ўсім добрым людзям зразумела: уласнасць КПБ—КПСС павінна быць неадкладна нацыяналізавана і перададзена на культурныя патрэбы беларускага народа.***

У СУВЯЗІ з гэтым я накіравала 25.09.1990 г. на імя сакратара Менскага абкома КПБ—КПСС заяву наступнага зместу: «З мэтаю хоць частковай кампенсацыі шкоды, якую нанесла дзейнасць кампартыі беларускай культуры, прашу суму 1163 рублі (адна тысяча сто шэсцьдзесят тры) — мае партыйныя ўзносы з 1978 года — пералічыць Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны на рахунак 700510 у Белжылсацбанку».

Пісьмовага адказу я не атрымала, гэта ў кампартыйных чыноўнікаў не прынята, а мне на працу тэлефанавала супрацоўніца абкома Корзун і паведаміла, што маіх грошай у іх няма, таму і задаволіць маю просьбу нельга.

Сёння праз вашу газету я хачу пацвердзіць, што лічу неабходным, каб мае ўзносы пайшлі не ў кішэні кампартыйных чыноўнікаў, а на адраджэнне нацыянальнай культуры — Таварыству беларускай мовы. Думаю, падобнае жаданне не ў адной мяне, а ў многіх радавых камуністаў, якіх дзесяцігоддзямі ашуквалі нашы «правадыры», бясконца абяцаючы за цярпенне «светлую будучыню».

Ганна ДОРАШ.
г. Менск.

**АД РЭДАКЦЫІ. Выказаную нашай чытачкай з Менску думку, па звестках рэдакцыі, падзяляюць вельмі многія ў рэспубліцы — і тыя, хто яшчэ па нейкіх прычынах застаецца ў шэрагах КПБ—КПСС, і тыя, хто лічыць для сябе, асабліва пасля апошніх крымінальных падзей, больш непрымальным знаходзіцца ў арганізацыі, якая гэтак сябе заплямiла. Мусім нагадаць, што яшчэ летам 1990 года значная група беларускіх пісьменнікаў выйшла з шэрагаў кампартыі і звярнулася са старонак «Народнай газеты» да беларускага парламента з заклікам прыняць неадкладныя захады, каб маёмасць кампартыі была скарыстана для культурнага адраджэння Беларусі. Марудзіць з гэтым зараз — значыць садзейнічаць таму, каб кампартыйныя функцыянеры цішком рыхтавалі новы гвалтоўны пераварот. Альбо ў лепшым выпадку рознымі шляхамі прысвойвалі агульнапартыйную ўласнасць.**

НА ЗДЫМКУ: Арвід Рольф Гульбек (справа) перадае дабрачынны груз.
Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА (БЕЛТА).

*Прапановы*

## Знаёмства праз газету

Прапаную ў «Нашым слове» адкрыць рубрыку «Знаёмства». Яна будзе карысная, асабліва для маладых настаўнікаў, якія працуюць у аддаленых вёсках. Можна такім чынам знаёміцца, хто пажадае, са сваімі калегамі ў любым кутку Беларусі і за яе межамі. А гэтага іншым часам так не хапае! Магчыма, для некага гэта стане пачаткам для стварэння сям'і. Няхай рубрыка будзе нават платнай — не бяда.

**Рыта ЛУКАШОНАК,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ухвішчанскай школы Полацкага раёна.**

АД РЭДАКЦЫІ. Нас зацікавіла прапанова Рыты Фёдараўны Лукашонак. Чакаем пісем ад чытачоў з прапановаю знаёмства. У першую чаргу будзем друкаваць лісты настаўнікаў — бясплатна.

*Пасля выступлення газеты*

## Становішча змянілася

**У адным з ліпеньскіх нумароў «Нашага слова» я расказаў пра дрэнныя справы з вывучэннем беларускай мовы ў школах Слоніма.**

**Напярэдадні навучальнага года ў Слоніме адбылася традыцыйная нарада настаўнікаў. Загадчык гарадскога аддзела народнай адукацыі Алег Мікалаевіч Лапцюшын паведаміў, што ў гэтым годзе першакласнікі ўсіх школ горада, акрамя №№ 5, 6, 8, будуць навучацца па-беларуску. Беларускія групы створаны ва ўсіх дзіцячых садках Слоніма.**

**Сяргей ЧЫГРЫН.**
**г. Слонім.**

**Чацвёрты раз прыехаў на Гомельшчыну Арвід Рольф Гульбек, нашчадак князёў Абаленскіх, з гуманітарнай дапамогай для тых, хто пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. На гэты раз ён прывёз груз коштам 40 мільёнаў нарвежскіх крон для гомельскага філіяла НДІ радыяцыйнай медыцыны Мінаховы здароўя БССР.**

## БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭННЕ Ў СВЯТЛЕ ДРУКУ

### (У КАЛІДОРАХ УЛАДЫ)

По газетах пракацілася хваля заяў аб выхадзе з кіруючых органаў КПБ членаў беларускага ўрада, акадэмікаў, міністраў. А як і чаму яны ўвайшлі туды, як наогул фарміравалася гэта кіруючае партыйнае ядро? Факты гавораць: уключэнне вышэйшых кіраўнікоў у бюро ЦК КПБ мела пэўную мэту: партыі патрэбна было ўплываць на ўсе кіруючыя структуры рэспублікі, праводзіць там сваю генеральную лінію. Аднак дом на вуліцы К. Маркса трымаў у руках «здольныя кадры» не толькі тым, што аказваў ім высокі давер. Да нядаўняга часу ў «кадравых пытаннях» санкцыі адпаведных аддзелаў, сакратарыяту і бюро ЦК КПБ былі абавязковымі пры вылучэнні на ўсе высокія пасады. Улічым таксама, што такая сістэма партыйнай атэстацыі капіравалася ў абласных і раённых маштабах.

Амаль усе міністры, кіраўнікі ведамстваў, рэдактары газет і часопісаў занялі свае месцы па рэкамендацыі ЦК. Цэпкі партыйны спрут настолькі глыбока пранік у сістэму выканаўчай улады рэспублікі, настолькі падпарадкаваў сабе ўсе яе структуры, што ствараецца ўражанне: усё начальства вакол — адзін суцэльны ЦК, як піша газета «Беларускі час», а затым, у другім артыкуле, дапаўняе сваё сцвярджэнне свежымі прыкладамі, узятымі крыху з ніжэйшай сферы кіравання — апарата Вярхоўнага Савета БССР.

Выяўляецца, што сюды апошнім часам ішла інтэнсіўная перакачка кадраў з ЦК партыі — ці праз Саўмін, ці напрамкі. Больш паловы з тых, хто прыйшоў сюды,— былыя супрацоўнікі ЦК, КНК, ЛКСМБ. А ўсяго, такім чынам, апарат вырас пры М. І. Дземянцею з 56 да 270 чалавек. Ды яшчэ апарат 24 камісій. Сабралася столькі людзей, што нават не ведаюць адзін аднаго ў твар. Прычым падбор кадраў рабіў былы сакратар Менскага абкома партыі Анціпенка. Зразумела, пад наглядам ЦК. Нават «аб'ектыўкі» на старшынь парламенцкіх камісій спускаліся з таго дома, хоць некаторыя са старшынь былі беспартыйнымі. Так што ў Я. Цумарава меліся ўсе падставы да абурэння: чаму яго характарызуе ЦК? Праўда, пасля шапку «ЦК КПБ» з характарыстык знялі, аднак сутнасць іх не памянялася. Так што,— робіць газета вывад,— «повар», г.зн. старшыня парламента, пайшоў, але «кухня» засталася...

*Працягваецца падпіска на газету «Наша слова» на 1992 год. Акрамя таго, на яе можна падпісацца і на апошнія месяцы гэтага года. У жніўні колькасць падпісчыкаў газеты павялічылася на 58 чалавек, у верасні — на 37*

**Паштовы індэкс «Нашага слова» на 1992 год — 63865.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*Рэха*

# Камітэт дзяржбяспекі рэспублікі абяцае прыняць меры, але тайна застаецца

**Нашы чытачы ведаюць, як напярэдадні знакамітага рэферэндуму аб захаванні «абноўленага» Саюза з «моцным» Цэнтрам на памяшканне штаб-кватэры рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы і рэдакцыі газеты «Наша слова» быў зроблены вандалісцкі напад. Тады ж была ўкрадзена шыльда ТБМ — арыгінальны твор беларускага мастака Міколы Купавы. Сябрамі ТБМ гэта было адназначна ацэнена не толькі як акцыя злоснага хуліганства, якая суправаджалася крадзяжом маёмасці грамадскай арганізацыі, але і як наўмысная цынічная абраза сімволікі беларускай мовы, Закона аб яе дзяржаўнасці. У сувязі з гэтым народны дэпутат Вярхоўнага Савета БССР і галоўны сакратар рэспубліканскага ТБМ Яўген Цумараў звярнуўся з адпаведным дэпутацкім запытаннем у Камітэт дзяржаўнай бяспекі рэспублікі.**

**Адказ на запытанне народнага дэпутата даў старшыня рэспубліканскага КДБ Э. І. Шыркоўскі. «Нашы падыходы і ацэнка такіх дзеянняў, якія былі ўчынены ў адносінах да памяшкання Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны,— паведаміў Э. І. Шыркоўскі,— поўнасцю супадаюць з Вашымі меркаваннямі: яны з'яўляюцца злачыннымі і непрымальнымі ў цывілізаваным грамадстве».**

У КДБ рэспублікі, гаворыцца далей, лічаць, што «Партызанскаму РАУС неабходна было распачаць па дадзенаму факту крымінальную справу». Робіцца ў прынцыпе правільны папрок і кіраўніцтву ТБМ, якое «не праявіла належнай настойлівасці, пагадзіўшыся з заключэннем участковага інспектара міліцыі аб недастатковасці падстаў для ўзбуджэння крымінальнай справы».

Ад рэдакцыі можам сказаць, што мы з вышэйпаказаным заключэннем ніколі не пагаджаліся і дамагаліся правядзення следства. Мы лічым, што, па-першае, украдзенае павінна быць вернута ТБМ,— гэта маёмасць усіх ягоных членаў, а не толькі кіраўніцтва, а згоды дараваць зладзеям ад грамады не было; па-другое, ніколькі не прагнучы, каб некага ўпяклі ў турму за гэтакае служэнне «единому и неделимому" Саюзу, лічым, аднак, што народ павінен ведаць сваіх «герояў».

У заключэнне свайго адказу старшыня рэспубліканскага КДБ Э. І. Шыркоўскі паведаміў, што «хоць па закону расследаванне такога роду злачынстваў не адносіцца да кампетэнцыі органаў дзяржбяспекі, КДБ, не выключаючы магчымых спроб паўторнага іх ажыццяўлення, прымае адпаведныя аператыўныя меры».

Выказваючы ўдзячнасць службе дзяржбяспекі за клопат, мусім усё ж не пагадзіцца з шаноўным Эдуардам Іванавічам у тым, што таямніцу нападу на штаб-кварэту ТБМ змог бы высветліць адзін участковы міліцыянер.

# Зміцер ЯЎТУХОВІЧ: СТВАРЭННЕ БЕЛАРУСКАГА ГІМНА — ПАТРЭБА ДНЯ



***Апошнім часам творы кампазітара Дзмітрыя Яўтуховіча можна часта пачуць па беларускім радыё і тэлебачанні. Некаторыя з яго песень сталі папулярнымі не толькі на Беларусі, але і далёка за яе межамі. Наш карэспандэнт сустрэўся з Дзмітрыем Яўтуховічам і задаў яму некалькі пытанняў.***

**— Дзмітрый, калі вы адчулі, што любіце музыку і ўсё ваша жыццё будзе звязана з ёю?**

— З першых дзён свайго жыцця я чуў музыку і любіў яе. Мой бацька — скрыпач, лаўрэат рэспубліканскага конкурсу 1963 года, маці — піяністка, дзядзька працуе скрыпачом у Мінскім камерным аркестры.

**— З чаго пачаўся ваш творчы шлях?**

— У час вучобы ў Гомельскім музычным вучылішчы на тэатральным аддзяленні я захапіўся музычнай імправізацыяй, стаў падбіраць на фартэпіяна розныя цікавыя сугуччы. За паўгода да кансерваторыі пачаў іх запісваць. Так з'явіліся тры п'есы для скрыпкі і фартэпіяна, а таксама некалькі рамансаў і фартэпіянных мініяцюр. У 1982 годзе паступіў у клас кампазіцыі Дзмітрыя Смольскага.

**— Каго вы лічыце сваімі настаўнікамі?**

— Акрамя Дзмітрыя Смольскага, маімі настаўнікамі былі Уладзімір Алоўнікаў, Анатоль Багатыроў, Галіна Гарэлава.

**— Ці вывучалі беларускую мову ў музычнай школе?**

— Грунтоўна не вывучаў. Ды і праграмныя музычныя творы па курсу беларускай музычнай літаратуры не мелі амаль ніякіх адносін да беларушчыны. Часцей за ўсё гэта былі творы пра Леніна і партыю.

**— А як прыйшлі да беларушчыны?**

— Усвядоміў сябе беларусам падчас працы ў ансамблі «Песняры». Праўда, у 1986 годзе ў «Песняроў» рэпертуар быў пераважна рускамоўным. Але ўвесь час мацней адчуваў, што павінен пісаць толькі беларускую музыку. А потым у 1989 годзе яшчэ пазнаёміўся з Данчыкам. Ведаеце, Данчык за адзін дзень паспеў развучыць і запісаць на радыё маю калыханку на верш Леаніда Пранчака «Добрай ночы!» Я тады канчаткова вырашыў: беларускай музыкай буду займацца стала і сур'ёзна.

**На чые вершы пішаце песні?**

— Часцей за ўсё на творы маладых беларускіх паэтаў. Цікаўлюся паэзіяй Н. Арсеньевай, М. Сяднёва, а таксама паэтамі Беласточчыны.

**— Некаторыя беларускія кампазітары, паехаўшы на канцэрты за мяжу, застаюцца там. Вас не цягне на ўцёкі?**

— Нядаўна на гэтую тэму я размаўляў з вядомым беластоцкім пісьменнікам Сакратам Яновічам, які ўспомніў Валянціну Пархоменку, «дзякуючы» ад'езду якой у Амерыку разваліўся цэлы калектыў «Жывіца». А там яна нікому і не патрэбна аказалася са сваім голасам. Сапраўдны нацыянальны творца павінен тварыць для свайго народа ў сваім нацыянальным асяроддзі. А так атрымоўваецца, што прафесіянал, кампазітар Пётр Альхімовіч вымушаны іграць на баяне ў адным з рэстаранаў Мехіка. Я не ўпэўнены, што ён там прапагандуе беларускую культуру, ды і наогул ці піша ён цяпер хоць што істотнае!

Нядаўна, удзельнічаючы ў музычным свяце на Беласточчыне, я адчуў, што там, за мяжой, беларусы больш цягнуцца да беларушчыны і ім беларуская песня, аказваецца, больш патрэбная, блізкая і зразумелая, чым нашай моладзі. Хіба ў нас стане 15—18-гадовая моладзь захапляцца беларускай песняй? Ім падавай «Ласкавы май».

Паехаць за мяжу і там выступіць перад беларусамі, хоць я і не спявак, для мяне заўсёды радасць. А застацца там, забыўшыся пра сваё прызванне, і мыць пасуду ці быць таксістам — не для мяне. Спадзяюся, прыйдзе час і мы адродзім беларускую культуру і мову. А беларускую мову, калі захацець, можна лёгка вывучыць. Я яе вывучыў за паўтара года.

**— Якія перашкоды ў творчым жыцці кампазітараў не дазваляюць ім паўнацэнна працаваць на Адраджэнне?**

— Што да маладых беларускіх кампазітараў, выканаўцаў (дарэчы, апошнім часам Беларусь пакінулі некалькі цудоўных скрыпачоў і піяністаў), то ў іх жыццё нялёгкае: складанасці з кватэрай, з працай. Многія, як і я, не маюць ні першага, ні другога. Грошы, якія мы зарабляем, не дазваляюць жыць нармальным жыццём, і часцей за ўсё мы ў вечных даўгах. Мяне вельмі не задавальняюць тэрміны выхаду ў эфір перадач з маімі новымі творамі. Даводзіцца чакаць па некалькі месяцаў, а то і гадоў. Для параўнання: у Беластоку я запісаў некалькі песень у беларускай рэдакцыі радыё, і назаўтра адна з іх прагучала ў эфіры, а астатнія — на наступны дзень. У нас пра такія тэрміны нават не можа быць і гаворкі. Цэлыя гурты адукаваных дзядзькоў і жанчын (пад назвай «худсовет») павінны «ацаніць» тваё дзецішча, і толькі тады будзе вядома, ці варта цябе пускаць у эфір.

**— Вы былі на «Басовішчы-91» на Беласточчыне. Якія ўражанні?**

— Хочацца адзначыць адсутнасць афіцыёзу ў гэтай імпрэзе, бо ў нас, колькі я ні ўдзельнічаў у канцэртах «Песню бярыце з сабою» і іншых,— усё нагадвае атмасферу ветэранскіх пасяджэнняў, прысвечаных розным юбілеям або ўручэнню ўзнагарод. Нават самай шчырай песняй, у якую ўкладаеш усю душу, цяжка выклікаць у нашых жорсткіх, абыякавых слухачоў адпаведную рэакцыю. На «Басовішчы» ад першых радкоў знаёмай песні ўсе ўстаюць, пляскаюць у далоні, нават спяваюць разам з выканаўцам.

Праўда, я памятаю і такія выпадкі, калі і ў нас на канцэртах, чуючы беларускую песню, людзі ўставалі і спявалі разам са спеваком. Так пад воплескі пяцітысячнай аўдыторыі ў Палацы спорту падчас святкавання мінулагодніх Каляд я выконваў песню «Даставай, Язэп, гармонік». Людзі радаваліся беларускім песням. Шкада, што акрамя мяне і ансамбляў «Сябры» і «Свята», якія выканалі па адной беларускамоўнай песні, нічога беларускага на свяце не было. Дык што тут казаць пра адраджэнне беларушчыны?

Удала выступіўшыя на «Басовішчы-90», Сяржук Сокалаў-Воюш і гурт «Грамада» з Віцебска былі на гэты раз успрыняты, як сапраўдныя героі свята.

**— Максім Багдановіч у свой час пісаў: «Беларускія пісьменнікі не пішуць па-беларуску, а толькі на беларускай мове». Такіх пісьменнікаў і сёння хапае. А як сярод кампазітараў?**

— І сярод кампазітараў такіх таксама дастаткова. Песня на беларускай мове не заўсёды беларуская песня.

— Чаму?

— Няхай мне даруюць мае калегі, але калі чуеш штучныя спалучэнні складанай, на заходні манер у джаз-рокавым напрамку, мелодыі і падстаўленага таксама штучна пад яе тэксту, адчуваеш надуманасць, а самае галоўнае,— тое, што гэта зроблена без сувязі з добрымі традыцыямі беларускага фальклору, а таксама і прафесійнай песні. Пры ўсёй сучаснай афарбоўцы сваіх твораў мы страчваем самае галоўнае — пластычную, добра запамінальную мелодыю. А ў нас жа ёсць з каго браць прыклад, у каго вучыцца. Гэта Ю. Семяняка, Ул. Алоўнікаў і нават І. Лучанок („непартыйны» песенны перыяд). Яны добра распрацавалі ў сваіх песнях разам з таленавітымі паэтамі сімбіёз меладычнай інтанацыі і паэтычнага слова.

**— І на заключэнне: ці змаглі б вы напісаць беларускі гімн?**

— Я ўжо спрабаваў. Дарэчы, урывак з майго «гімна» гучыць ва ўступах тэлеперадач «Рэха дня», «Панарама» і «Раніца рэспублікі». Музыка ёсць, але да сённяшняга дня ніхто не змог напісаць належнага верша да гэтай мелодыі.

**Распытваў Віктар ШНІП.**

# Вяртацца да вытокаў!

*З рэдакцыйнай пошты*

Паважаны рэдактар! З вялікай цікавасцю і хваляваннем чытаю «Наша слова». Трэба дзякаваць людзям добрай волі, якія ўзяліся за патрэбную і цяжкую працу аднаўлення роднай мовы на Беларусі. Дай ім Бог многа сіл і поспехаў у гэтай працы!

У № 17(27) «Нашага слова» прачытаў наступнае: «Сабе ж на мэце ставім вяртанне народу ягонай тапанімічнай спадчыны». Хацеў бы падзяліцца сваімі думкамі на гэты конт.

ІВАНАВА. Ёсць ў Брэсцкай вобласці раённы гарадок, які сягоння так называюць. Але назоў чыста рускі і быў навязаны яму ўжо пасля вайны. Як мне вядома, пярвотны і гістарычны назоў гэтага гарадка — Янова. І нават цяпер мясцовыя людзі часта гэты горад так і называюць. Я прапаную камісіі па тапаніміцы пераглядзець старыя карты, летапісы, каб вярнуць гэтаму беларускаму гарадку ягоны беларускі назоў.

Дарэчы, пішу гэты ліст, і перада мной ляжыць «Карманный Атлас Мира» з 1940 года. Там гэты гарадок пішацца «Янов». Палякі называлі яго Януў Палескі. Дык чаму ж і каму было патрэбна мяняць стары і гістарычны назоў?

ДНЕПРА-БУГСКІ КАНАЛ. Не ведаю, які быў пярвотны і гістарычны назоў гэтага канала, але цяпер ён не вельмі лагічны. Канал лучыць раку Піну з Мухаўцом, а не Днепр з Бугам. Канал пачалі капаць яшчэ ў 1775 г. за каралём Станіславам Аўгустам. Да вайны палякі называлі яго «Крулеўскі канал». А як раней?

Пару гадоў таму назад я быў на Бацькаўшчыне. Быў у Пінску, дзе многія вуліцы называюцца так: «Ленинградская», «Московская», «Горького», «Лермонтова», «Пушкина» і г. д. А беларускіх вуліц не бачыў. Прыкра. Балюча.

У Янове (Іванаве) інструкцыі для прыезджых з заграніцы ў міліцэйскім пункце па-руску і па-польску.

Трохі аб сабе. Лёс мой, як і многіх беларусаў, не вельмі шчаслівы. Родам з Яноўскага раёна. «Родны кут» пакінулі 10.02.1940 г. Потым праз Архангельскую вобласць («спец-перасяленцы») — Урал. Казахстан, Узбекістан, Каспійскае мора ўдалося дабрацца да Ірана (1942 г.). Потым — да Англіі (1947 г.).

Як нас вывозілі 10.02.1940 г., мне было 13 год.

**З павагай да Вас М. ДЗЕУТ. Англія.**

## ПРА МЯККІ ЗНАК І ПРА ТОЕ, ЧАМУ Я СПАЛОХАЎСЯ

Спачатку пра падзеі апошняга тыдня. 19 жніўня я спалохаўся. Спалохаўся за родную мову, за Бацькаўшчыну. Бо зразумеў: апошні шанц для адраджэння, што дала нам гісторыя, можа быць скасаваны пераваротам. Каюся, ведаючы, што кампартыя абяцала вылезці з акопаў, я падумаў: цяпер ад яе літасці не будзе. І я вырашыў: гэта надоўга, не менш як на два гады... Бо што адразу зробіш супраць вінтоўкі? Было балюча думаць, што зноў вяртаецца абрыдлая ідэалогія, набліжаецца знішчэнне шчырасці паміж людзьмі, веры ў добрае.

Ну і наконт мяккага знака. Які беларус прачытае ці вымавіць цвёрда літару «н» у слове «адраджэнне», калі нават яно напісана без мяккага знака сярод падвоеных «н»? Або ў слове «пасвіць» літару «с»? Ну вядома ж, кожны вымавіць іх мякка, бо інакш нельга, гэта будзе ўжо не па-беларуску. Тое ж слова «цвёрда». Калі не сказаць мякка літару «ц», то гэта будзе ўжо не па-беларуску таксама.

Калісь у расійскай мове быў ледзь не ў кожным слове на канцы цвёрды знак. Адкінулі яго і намнога скарацілі кнігі, а ў нас зараз хочуць зрабіць наадварот. Я супраць гэтага.

Цяпер пра падпіску. Я лічу, што «Наша слова» выпісваюць патрыёты роднай мовы, людзі, якія жадаюць яе адраджэння, хочуць «людзьмі звацца». Яны не шкадуюць для гэтага часу, грошай, не лічацца з турботамі.

Вядома, што цана вашай (і нашай таксама) газеты па падпісцы 5 капеек, а ў продажы — 10 капеек. Дык я прапаную зрабуць наадварот. Кожны падпісчык «Нашага слова», лічу, згодны будзе заплаціць удавая больш, ведаючы, што яго грошы з'явяцца ахвяраваннем на святую справу адраджэння роднай мовы і культуры.

**Міхал СОКУР,**
**г. Светлагорск.**

*Надрукавана ў «Свабодзе»*

# Уладзімір НОВІК: Ці патрэбен Беларусі прэзідэнт?

«Беларусь: парламентарызм альбо прэзідэнцтва?» — пад такім загалоўкам беларуская газета «Свабода» змяшчае артыкул народнага дэпутата БССР (апазіцыя БНФ) Уладзіміра Новіка. У артыкуле разглядаюцца тыя непрадказальныя вынікі — ад масавага грамадзянскага непадпарадкавання, хаосу ў эканоміцы — да ўсталявання дыктатуры, да якіх можа прывесці ўвядзенне інстытута прэзідэнцтва на Беларусі. Разам з тым аўтар дзеліцца сваімі меркаваннямі па гэтаму пытанню у сувязі з абмеркаваннем яго на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, якая адбудзецца ў кастрычніку г. г. «Калі сур'ёзна рыхтаваць глебу да пераходу на прэзідэнцкую форму праўлення, — адзначаецца ў артыкуле, — дык варта было б ужо сёння ўнесці шэраг элементаў парламентарызму ў дзейнасць нашага ВС».

Прапануецца, у прыватнасці, дазволіць дзейнасць палітычных дэпутацкіх фракцый, скараціць колькасць пастаянных камісій да 10—12, правесці ўсенародны рэферэндум аб увядзенні прэзідэнцтва і іншыя меры.

У заключэнне артыкула Уладзімір Новік піша: «Калі большасць народа будзе схільна да ўвядзення інстытута прэзідэнцтва, то ў новай Канстытуцыі павінна быць дасканала прапрацавана ўся структура дзяржаўнай улады з пункту гледжання недапушчэння адраджэння таталітарызму і павышэння эфектыўнасці кіравання дзяржавай... Пасля ўсенароднага абрання прэзідэнта неабходна правесці дэмакратычныя шматпартыйныя выбары ў парламент».



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

